# РЭАНІМОВА

з над Нёмана №1·1989.

## ад Максіма Кніжніка пачатак

Найчасьцей кнакі і дзяўчаты не хочуць удзельнічаць у нацыянальным руху і нават размаўляць на роднай мове,каб не быць белымі варонамі.

Максім Багдановіч не баяўся быць белай варонай.

У чыстым небе зор пасеў...

Сярод зор чыстага беларускага неба незамглёна гарыць зорка Максіма Багдановіча.Пакуль іншыя блукаюць у пошуках сваіх сьцежак,жывучы на Радзіме,ён выбраў птушыны шлях да Беларусі напрасткі па нябёсах і не страціў са сваіх 25 год 5 месяцаў і 15 дзён ані хвіліны часу.Можа таму,што не стрымлівалі яго рукі маці. -- з 5 год гадаваўся сіратой.

Адкуль браў ён сілу і цяпло?Адкуль чэрпаў любоў,мужнасьць і высокую сьвядомасьць?

Янычары у Басманскай імперыі,адрокшыся ад свайго роду-племені,ішлі наперадзе войска,якое захоплівала іхнюю радзіму.М.Багдановіч пера - сьцерагае свой народ ад такой долі ў вершы "Пагоня":

Бійце ў сэрцы іх,бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!

Мы пакуль што не янычары. Таму і вырастаюць у беларускіх гарадах суполкі моладзі,якія змагаюцца за адраджэньне беларускай мовы. Яшчэ адна суполка створана ў Гародні пры Доме-Музеі Максіма Багдановіча -- літаратурна-мастацка-музычная.Хлопцы з новай суполкі зьбіраюцца вывучаць і прапагандаваць творчасьць Максіма Багдановіча,які выдатна ўвасобіў ідэю неўміручага духоўнага ўзраджэньня Беларусі і ўзвысіў беларускае слова на такую вышыню мастацкай дасканаласьці,дзе нацыянальнае ўжо становіцца шэдэўрам і сусьветнай культуры. Ён думаў над шляхамі хутчэйшага разьвіцця дэмакратычнай паэзіі.Мы ўсьлед за ім паўтараем:"Берымося! Наш сягоньняшні,наш заўтрашні напрамак -- да забытага намі народнага беларускага шляху!"

Багдановіч дакрануўся душою да мінуласьці і наблізіў яе да будучыні.Хочацца працаваць з пачуцьцём, што за намі, прад намі - гады...

Сябрам суполкі імя Максіма Багдановіча будзе той, хто адпрацуе з намі пяць "талок". "Талокі"могуць замяніць іншыя справы -- па рашэньню членаў суполкі.

## Гараднічанка

Ёсьць розныя думкі наконт паходжаньня назвы нашага горада.Адна з гэткіх думак -- імя горада паходзіць ад назвы ракі,на якой горад вырас -- Г а р а д н і ч а н к а. Што рака мела калісьці чыстую крынічную ваду для піцьця,сумненьняў не можа быць.У Гараднічанку і цяпер упадае некалькі не зьнішчаных крыніц, якія наталяюць смагу ў сьпёку.

Гродзенскі замак пабудаваны там,дзе Гараднічанка ўпадае у Нёман.Рэчка была натуральнай перашкодай ворагам.

Калі вандроўнік ішоў ад чыгункі ўдоўж Гараднічанкі да Нёмана і Старога замку, ён без праваднікa мог убачыць найпрыгажэйшыя мясьціны Гародні,зрабіць адпачынак у цяньку старасьвецкіх ліпаў у Швейцарскай даліне,якая была некалі найпрыгажэйшым мейсцам у Гародні.Гараднічанка ўпрыгожвала горад зелянінай.

Але зараз раку не любяць,яе мінаюць. Яе замуцілі,забрудзілі,загналі ў трубу,як у вязьніцу,і зьявілася адпаведная назва --вонючка.Хто жыве на беразе Гараднічанкі,на ноч шчыльна зачыняе вокны,менавіта ноччу зьліваюць у раку атруту гаспадары-самаеды. Атрута цячэ ў Нёман.

--Зачем нужна эта вонючка,засыпать её и всё!- скажа іншы так. Гэтак жа ён скажа і пра беларускую культуру,мову народа,які пабудаваў прыгожы горад, пра сам народ.Мову нашу загналі ў трубу,як Гараднічанку.Людзі Гародні некаторыя лічаць сябе яшчэ палякамі, а некаторыя ўжо рускімі сябе лічаць. У час перапісу насельніцтва хто самахоць, а хто з падказкай перапісчыкаў сьцьвярджалі,што іх родная мова -- руская. Некаторыя пасьля перапісу выказвалі абурэньне, што ім няправільна запісалі родную мову.Але ці шмат хто запратэставаў па-сапраўднаму?

Зрэшты,чаго варты такі перапіс,калі праўда падпраўляецца,воля асобы не ўлічваецца?

Але пакуль жывуць людзі, не зьнікае надзея: мы адмыем ад бруду нашу зямлю.Будзе цячы па Гародні прыгожая рэчка Гараднічанка,а крыніцы на яе берагах будуць гаіць нашы душы.

---

Мы мелі гонар прыняць удзел у Вальным Сойме-2,які склікаўся ў Вільні.
А перад Соймам шчыра памаліліся ў Вострай Браме і паставілі сьвечку ў Сьвятадухаўскім манастыры.
Боженька нам паспрыяў -- і маскоўская "Праўда" напісала праўду.
І "Гродзенская праўда" пабаялася няпраўду пісаць.
Няўжо маўчыць "Вячэрні Мінск"?

# ХТО ЁСЬЦЬ ХТО

Бо ж вось бязбожнікі нацягнулі лук,паклалі стралу сваю на цеціву,каб упоцемках страляць у справядлівых сэрцам.

Кніга псальмаў,пс.II

З самага пачатку ўзьнікненьня беларускага адраджэнцкага руху ва ўдзельнікаў гэтага руху зьявілася нямала ворагаў.І не толькі сярод "ціхіх" пенсіянераў, а і сярод людзей,якія трымаюцца на розных пасадах і зараз.Аб гэтым могуць сьведчыць і запалохваньні,і навешваньні ярлыкоў,і штрафы,накладзеныя на арганізатараў мітынгаў у Менску.

Асаблівыя напады на"нефармалаў" пачаліся пасьля 19 кастрычніка,у гэты дзень быў утвораны "Мартыралог Беларусі" і ініцыятыўная група Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". З гэтага часу пачалося сапраўднае цкаваньне беларускай інтэлігенцыі,моладзі,усіх сьвядомых беларусаў.Не грэбуюць нічым.Якім толькі брудам не абліваюць.Здаецца,што сеў на "машыну часу" -- і апынуўся ў трыццатых гадах.Метады ідэалягічнага ганьбаваньня тыя самыя, толькі зараз замест "врагов народа" -- "враги перестройки".Кульмінацыйным момантам быў разгон людзей 30 кастрычніка ў Менску ў час правядзеньня "Дзядоў".Трэба было добра спалохацца, калі людзі, якія несьлі кветкі на магілы продкаў на "прэстыжныя" Маскоўскія могілкі, падаліся "бунтовщиками",што хочуць падарваць "устои" -- а можа "застої"?

Дык каго ж так напалохала ініцыятыва беларускай інтэлігенцыі? Хто заклікае да барацьбы з моладзьдзю, якая хоча адрадзіць беларускую мову,культуру,гонар свайго народа?

Перш за ўсё таго,каму перабудова як костка ў горле, а абуджэньне народа страшней за пекла. Бо людзі, якія згубілі свае карані,сваю гісторыю,згубілі сувязь паміж сабой -- сваю мову, не могуць згуртавацца,не могуць адстойваць свае правы,-- і таму ў нас на Беларусі такая моцная кляса бюракратаў,што ўзьнікла ў часу сталіншчыны і расквітнела ў часы стагнацыі.

Перабудова для іх -- гэта перш за ўсё канец прывілеяў, канец нікім не кантраляванай улады. А калі народ не адчувае сваёй моцы,бо кожны чалавек жыве паасобку, уладарыць такім народам вельмі лёгка.Пра перабудову можна толькі пакрычаць з моўніц.А пацiху выкарыстоўваць "чылійскі" варыянт. Людзі ж не разумеюць, чаму ў газэтах пішуць аб перавыкананьні плянаў, яны самі працуюць лепей, чым працавалі раней, фабрыкі ды заводы не зачыняюцца,а тавараў становіцца ўсё менш і менш.Вось тут можна і прыгадаць так, незнарок:"Вось раней гэта ўсё было, а зараз -- што зробіш,перабудова, а пасьля "толкнуть речь" у падтрымку перабудовы.

Зьмяніць такое становішча можа толькі кантроль народа над уладай. А на цяперашні час у Беларусі гэта здольны зрабіць толькі народны рух. Пакуль ён яшчэ толькі нараджаецца і бюракраты зробяць усё, каб задушыць яго ў калысцы. Вось чаму рассылаюцца па рэспубліцы дырэктывы,як падарваць ініцыятыву грамадзкасьці,пасылаюцца лектары, якія абліваюць брудам лепшых людзей Беларусі. А хто гэтыя лектары? Яны ж,здаецца, адукаваныя людзі,чаму яны сьвядома разносяць хлусьню? Ды таму,што яны па іншаму не могуць,яны зрабілі сваю навуковую кар'еру на гэтым,ім таксама страшнае абуджэньне сьвядомасьці беларускага народа; калі народ зацікавіцца сваёй гісторыяй,гісторыю ўжо не змогуць круціць, як захочуць. Раней было лёгка. Трэба было пісаць тое, што выгадна тым, хто ўладарыў. А калі хто спрабаваў даведацца праўду пра сваё мінулае, а яшчэ і аспрэчыць тое, што пішуць "аўтарытэтныя" гісторыкі, такога лёгка было зьнішчыць, напісаць данос куды трэба,абвесьціць нацыяналістам,здраднікам,паслугачом імперыялістаў і так далей.Гэта было не толькі ў гісторыі,амаль ва ўсіх навуках. Апаненты абвяшчаліся ідэалягічнымі ворагамі і з імі ўсё было вырашана. Гэта рабілася і робіцца зараз, але не з такім эфектам, таму што няма аргументаў,доказаў, застаецца толькі хлусьня.

Можа ў гэтым прычына нашага адставаньня ад іншых краін сьвету.

Асобы, якія некалькі год назад званілі аб мудрым кіраўніцтве Брэжнева,пайшлі ў ход і зараз.Няўжо ім верыць?Разумныя людзі,вядома,не. Вераць тыя, якія хочуць верыць, і тыя,хто прызвычаіўся,каб за іх думала начальства.

Але якая б ні была моцная бюракратыя,як бы ні цкавала яна беларускі рух сваімі паслугачамі,слабасьць іх у тым,што могуць яны апірацца толькі на неадукаванасьць і несьвядомасьць людзей,і з дапамогай несьвядомых людзей спадзяюцца ўтрымацца на плыні. Было ж такое,што ў дні паўстаньня сяляне выдавалі царскім войскам паўстанцаў,якія змагаліся за свабоду тых жа сялян.Таму рыцары стагнацыі так сьпяшаюцца, таму так яны баяцца абуджэньня народа ад летаргічнага сну.

І калі бюракратаў і псеўданавукоўцаў ужо не выправіш,то людзі,якія не маюць праўдзівай інфармацыі і па-ранейшаму вераць бюракратам,хоць са спазьненьнем прымуць удзел у народным руху.

---

У лісьце ў "Нашу ніву" ад 28 кастрычніка 1913 г. Багдановіч пісаў:"Калі таварыства імені Скарыны закладзецца,я ахвотне запішуся ў члены.Узяўся б і напісаць жыцьцеапісаньне Скарыны,калі б таварыства даручыла мне гэта".

У Маскве ўтварылася Беларускае таварыства культуры імя Францыска Скарыны -- падзея гістарычная.

У канцы сьнежня суполка імя Максіма Багдановіча з Гародні высылае ў Маскву тэлеграму наступнага зьместу:

"Беларускаму таварыству культуры імя Францыска Скарыны, у члены якога марыў запісацца Максім Багдановіч, жадаем росквіту.

Нас яднаюць -- але не сварыці! --
несьмяротныя кнігі Скарыны!

Вечар быў сьвяточны. Мы праводзілі ў Бельск нашых сяброў -- беларускую паэтку Надзею Артымовіч і Яна Морданя.

Тэлеграму вырашылі прадыктаваць па тэлефоне.Калі засталося паставіць подпіс, наша ветлівая тэлеграфістка сказала "минуточку", а праз хвіліну адрэзала:"Телеграммы на белорусском языке по телефону не принимаются,только на бланке." "Але ж наша Беларусь зьяўляецца членам ААН. Я ж пасылаю тэлеграму на роднай мове!"-- "Можете жаловаться на меня куда угодно.Моя фамилия Посная."

З поснай мінай мы пайшлі на тэлеграф і былі усьцешаны, што тэлеграму нашу прынялі. Аляксей Карпюк месяц назад не здолеў адправіць тэлеграму на імя Ніла Гілевіча ў Менск на роднай мове.

# МАГУТНЫ БОЖА

Музыка М. Равенскага
Словы Н. Арсеньевай




Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых!
Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменьні свае хвалы.

Дай спор у працы штодзённай, шэрай,
На лусту хлеба, на родны край,
Павагу, сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць — дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот!
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

# КАЛЯДА

Упершыню за шмат гадоў па вуліцах Гародні зноў прайшла Каляда. Падрыхтаваць каледаваньне было не так і проста. Шмат размаўлялі. Адны вучыліся сьпяваць калядныя песьні, іншыя ім перашкаджалі. І ўрэшце прыйшла Каляда, а ў нас нават зоркі няма. На наша шчасьце ў гэтыя дні гасьцявалі ў нас Ян Мордань і Надзея Артымовіч з Беласточчыны. Ян аказаўся лепшым у сьвеце майстрам па калядных зорках. І гэта выратавала справу - зорка была зроблена. Наш самы малодшы сябра аказаўся самым знаходлівым, можа таму, што мазгі яму прасавалі некалькі гадоў меней, і прапанаваў зрабіць у цэнтры зоркі крыж ярылы, якому маліліся нашы продкі з язычніцкіх часоў.

Мы хадзілі па хатах, сьпявалі калядныя песьні, віншавалі людзей. Прымалі нас вельмі добра. Калі б мы былі не такімі ідэйнымі, то наша сьвяткаваньне магло б скончыцца ў медвыцьвярэзьніку.

24 сьнежня мы проста каледавалі, атрымліваючы ад людзей пачастунак і шчырыя словы пахвалы.

7 студзеня мы асьмялелі і пачалі зьбіраць грошы на Народны фронт. Многа кватэр абыйсьці не пасьпелі, бо ў кожнай хаце трэба было трохі затрымацца. Але 100 рублёў усё ж сабралі.

Не абыйшлося без вясёлых момантаў. Адзін хлопчык, калі ўбачыў нашу зорку, усё пытаўся ў бацькі: "Папа, это змей, да? Он потом полетит?" Бацька нешта мармытаў, адчувалася, што ён сам не ведаў -- ці паляціць ці не.

І такое казалі: "А, гэта тыя, "Тутэйшыя"!

Так што падмазаліся да славы менскіх сяброў.

Трэба падзякаваць гарадзенскай міліцыі. Мы ж не пыталіся дазволу перад тым, як выйсьці на вуліцу. Гэта магло быць расцэнена, як "злостное нарушение демократических законов", нашы знаёмыя хваляваліся, каб нас не арыштавалі. А ў нас нават ніхто не праверыў дакументы.

# СУЧАСНЫ фальклёр

Саўка ды Валера ладзілі дуду,
на беларусаў ладзілі труну.
Тру-ну-ну-ну, тру-ну-ну-ну,
ладзілі труну.

Як разыйшліся ў Менску на "Дзяды" --
палкі-дубінкі выйшлі з той дуды.
Уга-га-га, уга-га-га,
шмат было бяды.

Выканкамы Менску, ёмкі ўзяўшы скрут,
выгналі ў Вільню нефармальны люд.
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту,
няма месца тут.

Шчэ пачакайце, прыйдзе чорны час:
на белай скуры ваш чырвоны пас
дзягай, дзягай, дзягай, дзягай
Вам напішам пас.

Вы сабе дуйце сваё гоцаца,
на беларусаў не будзе канца.
Гоца-ца-ца, гоца-ца-ца,
не будзе канца.

---

23 лістапада ў Гродзенскім універсітэце быў праведзены круглы стол па нацыянальнаму пытаньню, на якім спачатку студэнты спалі, а пасьля абудзіліся і напісалі ліст у Вярхоўны Савет Беларусі з патрабаваньнем надаць беларускай мове статус дзяржаўнай.

10 студзеня 1989 года ва Універсітэт прыехалі прадстаўнікі Міністэрства Асьветы Стражаў Васіль Іванавіч і Маскоўскі Віталій Іванавіч на гутарку "з некаторымі аўтарамі ліста".

Маскоўскі В.І. не змог размаўляць з прычыны няведаньня беларускай мовы.

Стражаў В.І. прапанаваў замест дзяржаўнасьці мовы стварыць гурток па вывучэньню беларускай мовы ў інтэрнаце універсітэта.

М.А.Янкоўскі заўважыў, што ён на месцы міністраў з гэтым лістом не паехаў бы -- трэба ж сябе паважаць!

Прапанавалі ліст усё ж вярнуць у Вярхоўны Савет, з чым згадзіліся міністры.

Адзін студэнт універсітэта падвёў вынікі дыскусіі -- праблемы беларускай мовы можа вырашыць толькі сапраўдны беларускі ўрад.

Рэктар т. Бадакоў праявіў ініцыятыву і прыняў рашэньне -- перавесьці навучаньне ва Універсітэце на беларускую мову з 1 лютага 1989 года.

На двары люты -- а як маецца тав. Бадакоў?

---

А ў паветры Гародні лётаюць не птахі, а метанол, фармальдэгід, араматычныя вуглевадароды, трыхлорэтылен -- наркотык, які зьяўляецца нервовай атрутай і выклікае устойлівыя пашкоджаньні чэрапна-мазгавых нерваў і міякарда, што можа прывесьці да раптоўнай сьмерці.

# АНАНІМОВА

## З КАМПЕТЭНТНЫХ КРЫНІЦАЎ.

### *да канфліктаў на беларуска-літоўскім памяжоўі.*

Вільня, 32студзеня (наш. кар.)

Апошнія паведамленьні з-пад Літоўскага Тэлеграфнага Агенства.

--Надалей не скончаюцца напады нацыяналістычна настроеных беларусаў на літоўскіх грамадзян, -паведамляе вусаты дзед, які прадае семачкі пад гмахам Агенства. --На мінулым тыдні, напрыклад, у Гародні група членаў Беларускага народнага фронту пад уплывам наркотыкаў перакуліла, а пасьля падпаліла І7 літоўскіх аўтамабіляў. Сьпецыяльна падабраныя выпешчаныя хлопцы з нефармальных аб"яднаньняў ходзяць па сваіх гарадах і прыслухоўваюцца, ці не чуваць літоўскае гаворкі. Хто трапіць у поле зроку, таго малойчыкі з бел-чырвона-белымі апаяскамі на рукавах высочваюць і лупяць у нешматлюдных мейсцах.

Магу яшчэ ад сябе дадаць, што пазаўчора беларусы пракалолі ўсе шэсьць колаў у маіх "жыгулях".

Менск, 32 студзеня (наш. кар.)

А вось што чутно пад Беларускім Тэлеграфным Агенствам ад бабулі, якая гандлюе салодкімі пеўнікамі і дае інтэрв"ю ўсім жадаючым:

--Колькасьць беларускіх грамадзян, пацярпеўшых ад нападу літоўскіх нацыяналістаў, павялічваецца, --паведамляе яна. --На аўтастрадах у беларускія аўтобусы ляцяць камені. У Каўнасе былі скінуты з маста ў Нямунас дзесяткі аўтамабіляў беларускіх грамадзян. Цяпер яны ў Гародні вывужваюць з Нёману свае "Масквічы", "Жыгулі", "Запарожцы", якія туды прыплылі па цячэньню. Ужо дайшло да таго, што беларусам прадаюць атрутую каўбасу. Так, напрыклад, у мінулым тыдні жанчына з Гародні атруцілася каўбасою, якую купіла ў Алітусе. Прычым, відавочна, што да гэтай акцыі літоўскія нацыяналісты -- члены "Саюдзіса" -- рыхтаваліся загадзя, бо, як сьцьвярджаюць сваякі атручанай, гэтую каўбасу яна купіла ўлетку.

Ад рэдакцыі.

Наш віленскі карэспандэнт заўважыў, што пакуль дзед даваў інтэрв"ю, у яго адклеіўся вус і было відно, што гэта пераапранутая ў дзеда баба.

Наш карэспандэнт з Менску заўважыў, што баба некалькі дзён не галілася -- гэта відавочна, што быў дзед пераапрануты ў бабу.




--Посмотри, нюни распустила -- в столицу ехать не желает!




